16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

11 • 2018
лістапад

Мікола ГІРГЕЛЬ.

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

# Пчала і Аса

*Байка*

Руплівіца Пчала
Нектар салодкі здабыла.
І вось ляціць з набыткам да вулля,
Аж у вачах зырчыць раса.
Ды са зласлівым зумканнем
Здаля
Насустрач ёй –
Аса.
Сустрэліся.
Дый узялася тая
Журыць няшчадна
Меданосных пчол:



– Стапталі кветкі!
Чахне-вяне дол!
Нічога навакол
Не прарастае!
Во прагныя да соладу!
Хапугі!
Аса ўжо аж надзьмулася
З натугі.
І бедная Пчала
Згарнула крылы,
На кветку апусцілася
Без сілы.



***

Падчас таго,
Хто ў працы пот свой лье,
Зайздросніка страла
Уміг саб’е.

Мікола ГІРГЕЛЬ.



# Ахвяры сацыяльных сетак



*Фельетон*

Групка студэнтаў-першакурснікаў абедала падчас перапынку ў сталоўцы. Любілі яны збірацца разам за адным сталом, есці немудрагелістыя стравы і бавіць час размовай, дзяліцца навінамі, абмяркоўваць нейкія грамадскія падзеі.

– Соня, які цудоўны фотаздымак ты ўчора выкінула ў інстаграм. Лайкаў столькі, што мяне аж зайздрасць бярэ. Дзе гэта? – прамовіла Каця.

– Дзякую, – заўсміхалася дзяўчына. – Мае падпісчыкі заўсёды так адзначаюць мае фота. На гэты раз я пабывала ў гасцях у знаёмай, якая жыве на дваццатым паверсе. Прысела на акно ў яе пакоі, каб быў лепшы від за спінай, і зрабіла кадр.

– А страшна не было? – здзівіўся Вадзім.

Соня крыху падумала і сказала:

– Толькі трошкі. Затое ў мяне плюс пяцьдзясят падпісчыкаў. Яшчэ некалькі такіх публікацый – і змагу рэкламай займацца.

– А ёсць яшчэ ідэі, дзе можна сфатаграфавацца? – запытала Алеся.

– Ой, нават не ведаю. Ёсць мара прайсціся па парапеце даха, і каб фатограф гэта здымаў, – фантазіравала дзяўчына.

– Ну ты і дурніца! – раптоўна выпаліў Алег.

За сталом павісла цішыня. Усе студэнты здзіўлена паглядалі на хлопца. Соня не вытрымала першай:

– Што за абраза? Як ты можаш мяне так называць?

– Табе жыць надакучыла, дурында? А што было б, калі б у цябе рука саслізнула і ты з акна выпала? Ты пра бацькоў сваіх падумала? Ім твае падпісчыкі і за дарма не патрэбны, – спакойна адказаў Алег.




Пётр КОЗІЧ.

– Я добра трымалася, нічога небяспечнага не здарылася, – апусціўшы вочы, прамармытала Соня.

– Пашанцавала. А вось хлопцу з Петракава – не. У мінулым годзе ён дзеля экстрэмальнага фотаздымка падняўся на апору паветрана-кабельнай лініі. Там прыблізіўся на недапушчальную адлегласць да правадоў і быў смяротна траўміраваны электрычным токам. Так жа загінуў жыхар Наваполацка. Як табе такі прыклад? – канстатаваў хлопец.

Дзяўчына лыпала вачыма і не ведала, які аргумент прывесці. Нарэшце прамовіла:

– Ну, на слуп я не палезу. Гэта неяк зусім неразумна.

– А я нядаўна чытала навіну пра даследаванні вучоных, якія прааналізавалі даныя наконт смяротнасці падчас фатаграфавання, – падтрымала размову Алеся. – За апошнія пяць гадоў больш за 250 чалавек загінулі, калі рабілі сэлфі. Большасць з іх патанулі – 70 выпадкаў, інцыдэнтаў з транспартам было каля 50, столькі ж звязана з падзеннямі з вышыні.

– О, памятаю, таксама бачыў гэты тэкст. Там яшчэ адзначалі, што часцей за ўсё ў гонцы за незвычайнымі фотаздымкамі пакутавалі людзі прыкладна нашага ўзросту, – дадаў Вадзім.

Павісла няёмкая паўза. Студэнты задумліва маўчалі.

– Добра, зразумела я ўсё, – ціхенька прамовіла Соня. – Будзем лічыць, што паставілі мне мазгі на месца. Абяцаю думаць цяпер перад тым, як зрабіць чарговае неверагоднае фота.

– Ага, страхоўку з сабой лепш насі ў рукзаку і рубільнік для розуму, каб уключаць яго ў патрэбныя моманты, – засмяяўся Алег.

– А ну вас. То сур’ёзныя тэмы закранаеце, то рагочаце, як дурні, –

усміхнулася Соня. – Лепш давайце сфатаграфуемся, будзе вам самая бяспечная публікацыя ў інстаграме.

Дзяўчына выцягнула руку з тэлефонам, нажала некалькі разоў на экран.

– Пайшлі, ахвяра сацыяльных сетак, да пары пяць хвілін, – прамовіла Алеся.

Усе заківалі, збіраючы рэчы, і патэпалі ў аўдыторыю.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




**Віктар РЭЧЫЦ**

## ЧАСТУЙЦЕСЯ БЕЗ МЯНЕ

Я даведаўся, славяне,
Што ў далёкім акіяне
Рыба водзіцца такая:
Яе «фугу» называюць.
Незвычайнае смакоцце,
Растае нібыта ў роце.
Толькі... шмат у ёй атруты.
Вось дзе кухару пакута!
Трэба выдаліць умела
Тое, што артуціць цела.
У Японіі нямала
Здольных прафесіяналаў,
Ды здараюцца няўдачы...
Хтосьці і дагэтуль плача.

Каб я фугу тую ўбачыў,
Фігу б паказаў, няйначай!






**Пятро СУШКО**

### Пакуты ад пасады

Узляцеў я па загаду
На высокую пасаду...
Жартаваць, браткі мае,
Мне пасада не дае.
Хмуры я, нібы ў жалобе:
Мне дзяўчына даспадобы,
Склаў бы вершык пра яе,
Ды пасада не дае.
Хлопцы песню заспявалі,
Ёй дзяўчат зачаравалі,
Падхапіць бы мне яе,
Ды пасада не дае.
Ой, браткі, дапамажыце,
Па-сяброўску падкажыце,
На пасадзе я ці не...
Пэўна, ўсё ж яна на мне.



### Экстраход

Твар у мыле,
Плашч наросхрыст...
На чырвонае святло
Нейкі дзядзька прэцца проста,
Пэўна, штосьці дапякло.

Пра яго шафёры дбаюць,
Ім страшней у сто разоў:
Тармазы машыны маюць,
Дзядзька ж той без тармазоў.

Ледзь тралейбус не разбіўся,
«Масквіча» занесла ўбок,
Дзядзька ж хоць бы разгубіўся –
Яшчэ больш паскорыў крок.

Мо бяда якая ў хаце?
Мо пры смерці хто ляжыць?
Мо па лекі для дзіцяці
Бацька ў роспачы бяжыць?

Што там дзеці? Гэта дробязь.
Не па іх душа баліць.
У яго свая хвароба –
«Экстрай» смагу наталіць.

*«Ганарлівы сучок», Мн., 1975 г.*



Аляксандр ШМІДТ.




## Расціслаў БЕНЗЯРУК

### Зайцы-маляры

*Зайцы на ўзгорку танцавалі, –*
*Там бачылі, калі былі вы, –*
*Яны бярэзнік фарбавалі,*
*І з пэндзля капалі бялілы...*

*Хведар ГУРЫНОВІЧ.*

Вясной бывалі
Калі ў бярэзніку,
Што фарбавалі
Зайцы-гарэзнікі?
І танцавалі,
І бялілі,
І разлівалі
Свае бялілы.

Ды не прыдбалі
Бялілаў новых,
Бо каштавалі
Яны не танна.
Зайцы ўцякалі,
Як Гурыновіч
На іх прыкрыкнуў:
– Прэч, хуліганы!..

### Не заракайся!

*Не заракайцеся, паэты,*
*Што перастанеце тварыць...*

*Надзея ПАРЧУК*

Не заракайся лепш, Надзея!
Не заракайся, а пішы,
Бо кожны верш табе – падзея,
Бальзам гаючы для душы.
Не заракайцеся, паэты,
Што перастанеце тварыць:
Наканавана вам у свеце
Паперу крэмзаць да зары.

Чытач наш любы, дабрадзею,
Сам у зацішку палічы:
Каму тады пісаць Надзеі,
Як знікнуць раптам чытачы?

Не заракайся, брат, не трэба,
Каб не застаўся хтось без хлеба!..

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Лілеі грудзей

*У лузе, дзе крыніцы абмялелі,*
*На схіле дня*
*Тваіх грудзей гарачыя лілеі*
*Раўніва халадзіла вышыня.*

*Віктар ЯРАЦ*

Каля крыніц змялелых я калею,
І ты са мною змушана калець.
Каб быў крыху смялейшы, то лілеі
тваіх грудзей маглі б мяне сагрэць.

Ляскочуць зубы, я знямеў без руху,
Ды раптам – шэпт твой ціхі:
«Дуралей,
Не можаш сам сагрэцца, дык
хоць рукі
За пазухай маёю адагрэй...»




Пётр КОЗІЧ.

## Вельмі хочацца на трон…

*Калісьці і звычайны унітаз*
*Мне падаваўся чымсьці кшталту*
*трона.*

*Усевалад СЦЕБУРАКА*

Даўным-даўно мінуў шчаслівы час,
Які раптоўна ўспомніўся мне сёння.
Было, садзіўся дома на ўнітаз
І мроіў, нібы я — на царскім троне.

Сядзеў гадзіну, дзве, а то й паўдня,
А мог яшчэ б і дзень, і ноч
сядзець я.
Ды толькі ў дзверы грукала радня,
І румзалі — «Хутчэй пусці нас!» —
дзеці.

Падцягваючы на хаду штаны,
Выходзіў з прыбіральні з неахвотай
І думаў пра адно, каб хоць яны
Надоўга не займалі царскі трон той.

Затое аж ад шчасця зіхацеў,
Як раніцай зыходзілі ўсе з дому.
Я на ўнітазе цэлы дзень сядзеў,
Сябе ўяўляючы царом, вядома.

## Мікола ШАБОВІЧ

### Чаго прысела?

*Прысяду на лясной паляне…*

*Таіса ТРАФІМАВА*

Хадзіла доўга я па лесе,
Шукала гэтую паляну,
Дзе можна хораша прысесці
Пад дзіўны водар дурнап'яну.

Тут, на паляне, — бы на лузе:
Хоць загарай, хоць спі, не еўшы.
І я сяджу, як шар у лузе,
І гэтак добра мне, прысеўшы.

А ты, мой рыцар, мой ахоўнік,
Адстаў — я ж гэтага й хацела!
Ну, дай мне пасядзець спакойна
І не пытай: «Чаго прысела?»



## Тонкае рвецца, альбо Ала, не шкадуй!

*Зноў не звязаць*
*Нам таго, што парвалі.*

*Мікола ЯЦКОЎ*



Што шкадаваць,
Мая любая Ала?!
Больш не звязаць
Нам таго, што парвалі.

Гэткай бяды!
Усё тонкае рвецца.
Слухай сюды!
Ты ж мне жонка, здаецца.

Есці вары,
Ад сяброў адрачыся.
Менш гавары,
Спяваць песні вучыся!



Будзе ўвесь свет
Перад намі адкрыты.
Я ж і паэт,
І спявак-кампазітар…

Грэх сумаваць,
Мая любая Ала,
Што не звязаць
Нам таго, што парвалі.




Анастасія СКАРКО.




Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.








Алег ПАПОЎ.






*Міні-байкі*

Жыла-была Хвілінка, якая была шчаслівая з кожнай Гадзінай...

* * *

Жылі-былі Акуляры, якія лічылі, што разумнеюць на вачах...

* * *

Жыла-была Цытата, якая крыўдзілася, калі яе называлі Спасылкай...

* * *

Жыў-быў Падарунак, які баяўся, як бы яго не прынялі за хабар...

**Аляксандр ЗОТАЎ,**
*г. Мінск.*



Анастасія СКАРКО.

**Валерый КУХАРЧУК**

# Ніжэй пояса

*З натуры*

«Нашага» чалавека лёгка знайсці ў любым натоўпе: на вуліцы, у крамах, грамадскіх установах. І не толькі па характэрных рысах славянскага твару, а перш за ўсё — па вопратцы. Беларуска-руска-ўкраінскі эмігрант з любым стажам не выйдзе «ў свет» апранутым у абы-што. Кашуля, штаны, спадніца, як правіла, чысценькія, адпрасаваныя. А некаторыя і пры гальштуку, з прычоскай, макіяжам ды трывалым водарам парфумы. Прычым яны такія што ў будні дзень, што ў святы. Карэнныя ж амерыканцы ў паўсядзённасці менш увагі надаюць свайму знешняму выгляду. Зручна — значыць, прымальна. І меркаванне навакольных іх нікольki не турбуе. Поўная дэмакратыя!

Праўда, іншым разам падобная модная абыякавасць выклікае дваякія пачуцці. Бадай што класічным прыкладам можа служыць празмерная прыязнасць амерыканцаў да сваіх дзяржаўных сімвалаў. Зорна-паласатыя палотнішчы, ад мініяцюрных да вялізарных, лунаюць ледзь не над кожным прыватным домам, супермаркетам, адміністрацыйным будынкам. Але калі ў гарадской мітусні сустракаеш, напрыклад, маладога чалавека з прыкрытым нацыянальнай святыняй тылавым месцам ніжэй пояса, калі ў адпаведных колерах шыецца ніжняя бялізна ці аднаразовым «сцягам» пакрываецца абедзенны стол — гэта, на мой погляд, ужо занадта.

Апошнім піскам моды ў асяродку афра-амерыканскіх прадстаўнікоў насельніцтва штатаў стала нашэнне штаноў, мякка кажучы, у прыспушчаным выглядзе. Такім чынам, каб на паясніцы кантраставала адметным колерам паласа ніжніх порткаў, а месца, дзе сыходзяцца калашыны, матлялася на ўзроўні каленяў.



Алег КАРПОВІЧ.

— Ох, і ўрэзаў бы гэтаму стылягу штурхель з разгону ды пад самыя «булкі»!.. — абураўся неяк мой зямляк.

Праўда, прыцішаным голасам. Бо што зробіш, вакол жа талерантнасць! Крый божа, яшчэ «прышыюць» расавую нецярпімасць. Вось толькі «моднікам» — хоць бы хны. А можа, такім чынам яны цяпер выказваюць пагарду сваім светласкурым суайчыннікам за колішнія гады прыгнёту?..

І яшчэ пра адносіны амерыканцаў да гумару.

У любым працоўным калектыве ёсць правіла: надышоў час «брэйктайму» — кідай прылады, справу давяршыш пасля. І вось падчас чарговай «кава-паўзы» заўважаю, як трое маіх маладзейшых калег стоўпіліся вакол экранчыка смартфона і заліваюцца гучным смехам. Заінтрыгаваны, падыходжу бліжэй да вясёлай кампаніі. Яны глядзелі выступленне нейкага знакамітага штатаўскага коміка, які з лісткамі салаты на вушах ды кетчупавым «макіяжам» паядаў неймаверных памераў сэндвіч, пры гэтым выдаючы недвухсэнсоўныя гукі, быццам з таго месца, што знаходзіцца ніжэй пояса. Шчыра прызнаюся, у мяне такое відовішча выклікала толькі агіду. Пасля ж падумалася: а што, калі б я расказаў сваім сябрам па працы анекдот кшталту: «Ганна, ты каню дала? То я пайду карове ўкіну...»? Не зразумелі б, яшчэ б і глядзелі як на дурня. А між іншым, зусім не пахабшчына, а даволі тонкі народны гумар.

Вось такія мы. Быццам бы аднолькавыя: ногі, рукі, галава. А ўсё ж такі адрозніваемся адзін ад аднаго. Менталітэтам, светаўспрыманнем, культурнымі прыярытэтамі...

*г. Юціка,*
*штат Нью-Ёрк, ЗША.*



# З сякерай у грыбы

Ідзе па дровы Мікалай,
Насустрач пара маладая.
Муж кажа: «Тут грыбы збірай!»
А жонка, гледзячы на Мікалая,
Пытаецца, ці ёсць грыбы ў бары.
Спыніўся той, каляску да сасны,
Адказвае з усмешкай самай мілай:
— Баравікі, махавікі адны!
Іду з каляскай, месца каб хапіла!
— Чаму ж сякеру вы ўзялі з сабою?



— Ну, хто касу бярэ, а я сякеру,
Калі ад тых грыбоў няма адбою!
Каляску ўзяў за дышаль ды пайшоў,
Каб назбіраць у печ сасновых дроў.
А ўслед жанчына здзіўлена глядзела:
«Нічога я зусім не зразумела!»

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*



# Нервы







Аляксандр ПЯТРОЎ х 2.







Алег ГУЦОЛ х 2.

# Выпадак у акупацыі

*Быль*

Як заўсёды, раніцай Матруна завіхалася каля печы. Раптам яна пачула, як да хаты пад'ехаў матацыкл. Жанчына зірнула ў акно і ўбачыла каля ганка паліцая Змітрака, нямецкага афіцэра і перакладчыка.

– Давай, гаспадыня, накрывай на стол ды частуй нас! – з гэтымі словамі зайшоў у хату Змітрок.

– З якога гэта перапуду? І якога ражна вам трэба? – адказала Матруна, працягваючы займацца сваімі справамі.

– Будзем ганаровую пасаду абмываць. Твайго Ісая прызначылі дзясяцкім у вашым пасёлку, – урачыста прамовіў Змітрок. – Падзякуй суседу Васілю, гэта ён падказаў нам.

Нямецкі афіцэр праз перакладчыка ўдакладніў, што з заўтрашняга дня муж Матруны паступае на службу і яму праз два дні трэба з'явіцца ў камендатуру падпісаць паперы. Потым «госці» селі за стол, выпілі самагонкі, закусілі і паехалі.

Жанчына ведала, што ў вялікіх вёсках немцы прызначалі старастаў, у сярэдніх – сотнікаў, а ў такіх пасёлках, дзе жыла яе сям'я, – дзясяцкіх.

– Трасца табе ў патыліцу, капыты табе ў рэбры! – лаяла яна «добразычлівага» суседа.

Справа ў тым, што Ісай быў сынам кулака. Таму Васіль і вырашыў, што ён з радасцю будзе супрацоўнічаць з немцамі. Але ж мужу Матруны такія думкі і ў галаву не прыходзілі. Ён жыў як усе: працаваў на зямлі, дзяцей гадаваў і імкнуўся як мага менш кантактаваць з захопнікамі.

Трэба было нешта прыдумаць. Працаваць на немцаў Ісай не збіраўся, а адмовіцца – немагчыма. Былога дзясяцкага, які жыў насупраць, застрэлілі партызаны. Такое магло здарыцца і з новым кіраўніком (хто б разбіраўся: па сваёй волі ён заняў сваю пасаду ці яе навязалі).

Цэлую ноч у хаце Ісая не спалі, меркавалі, як выйсці з такога цяжкага становішча. Неўзабаве ў Матруны з'явілася ідэя...

На наступны дзень суседзі назіралі дзіўнае відовішча: Ісай у адных споднiках скакаў па гародзе суседа. Ён кудахтаў, як курыца, кукарэкаў, як певень, рохкаў, як кабан. Калі Васіль пачаў лаяцца, муж Матруны падскочыў, ускінуў руку і крыкнуў: «Хайль Гітлер!» Жанчына падбегла да Ісая і загаласіла:

– Божухна! Што рабіць? Бедныя мае дзеткі!

Потым паклікала свайго брата Захара. Яны звязалі мужа і аднеслі пад павець. Захар прыгнаў каня. Матруна паклала на калёсы ўсё, што змагла сабраць: збан смятаны, міску тварагу, кавалак масла і бохан свежага хлеба. З гэткімі пачастункамі яна паехала ў камендатуру.

Ужо на месцы кабета кінулася да нямецкага палкоўніка, пачала плакаць і прасіць:

– Паночак, даражэнькі! Мой Ісай страціў розум ад радасці, што яго прызначылі дзясяцкім. З самага ранку бегае ў споднiках па гародзе і рохкае, як кабан. Дзеці пахаваліся ад такога бацькі. Суседзі рагочуць, а мне не да смеху. Раней быў рахманым мужыком, а зараз нібы чорт усяліўся ў яго, зусім апантаны стаў. На мне і так уся гаспадарка, а тут яшчэ гэты звар'яцеў. Злітуйцеся, паночку! Здыміце Ісая з пасады!

Усе словы пераклалі палкоўніку. Той паклікаў афіцэра і адправіў яго, перакладчыка і паліцая Змітрака ў пасёлак, каб праверыць, ці праўду казала Матруна.

Калі Ісай убачыў нямецкага афіцэра, то спрытна пабег яму насустрач, ускінуў руку і закрычаў: «Хайль Гітлер!» Потым зняў сарочку і ўпрысядкі заскакаў вакол афіцэра. Нарэшце ўзняўся на ногі, зноў ускінуў руку, развярнуўся і памаршыраваў да Матруны з дзецьмі. Жанчына ж глядзела на яго і ціхенька паўтарала: «Што ж цяпер рабіць, як нам быць!»

Афіцэр праз перакладчыка пагутарыў з суседзямі, упэўніўся, што жанчына расказвала праўду, і паехаў са сваімі служкамі назад. Праз дзень да сям'і Ісая дайшлі чуткі, што дзясяцкім прызначаюць суседа Васіля.

Такім чынам Матруна дзякуючы кемлівасці і акцёрскім здольнасцям вызваліла Ісая ад службы ў немцаў.

**Валянціна ХАЛЕЦКАЯ,**
*г. Гомель.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.



Анастасія СКАРКО.



Алег КАРПОВІЧ.

# ЗАМЕЖНАЕ САЛА



Па замежныя тавары
Для сям'і, для дома
Едуць Ніна і Тамара,
Не бярэ іх стома.

Накуплялі шмат шкарпэтак,
Маек, макасінаў,
Місак-лыжак ды сурвэтак,
Ківі, апельсінаў.

Ніна сала ўпадабала:
Трэба ўзяць чым болей!
Кілаграмаў пяць набрала —
Як прайсці кантроль ёй?

Тома ўсцешыла сяброўку,
Выйсце падказала.
І да жывата вяроўкай
Сала прывязала.

Перацiснута дыханне,
Гне да долу скварка.
А на мытні — вось спатканне! —
Дужая аўчарка.

Ніну пільна нюхаць стала —
З'есці, мабыць, хоча
Ці жанчыну, ці то сала...
Трасцу ёй у вочы!

Пагранічнік падазрона
Доўга штось выпытваў.
А сабака — звер вучоны —
Ледзь не ўгрыз за лытку...



З таго часу за мяжою
Ніна не бывае.
У хляве сваім затое
Парсюкоў трымае.

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




## Выдатная салата

Нікола Тэсла акрамя таго, што быў выдатным фізікам, вельмі любіў матэматычныя загадкі і пастаянна шукаў магчымасць патрэніраваць свой розум. Звычайна за абедам у рэстаране ён пачынаў есці суп, толькі вылічыўшы яго аб'ём, так рабіў і з іншымі стравамі.

Аднойчы афіцыянт прынёс яму на дэсерт талерку салаты з садавіны, дзе кожны кавалачак меў сваю форму і памер. Вочы Тэслы загарэліся: ён спісаў усе сурвэткі матэматычнымі формуламі. Прайшло пятнаццаць хвілін, а страва яшчэ заставалася некранутай.

Афіцыянт спытаў у вучонага:

– Няўжо вам не падабаецца наша салата?

– Ды што вы! Я ў жыцці не сустракаў нічога лепшага! – усклікнуў Тэсла, працягваючы пісаць...

## Трэба больш месца

Дзмітрый Іванавіч Мендзялееў кіраваў лабараторыяй у Палаце мер і вагаў. З цягам часу там стала не хапаць працоўнага месца. Тады навуковец запрасіў у Палату вялікага князя Міхаіла Раманава, каб госць зразумеў, у якіх умовах ім даводзіцца працаваць. Дзмітрый Іванавіч вырашыў узмацніць уражанне цеснаты. Два дні з падвалаў выцягвалі груваснкія старажытныя хімічныя ўстаноўкі і прыборы. Усім працэсам кіраваў Мендзялееў:

– Ды не ў куток, а вось сюды, пасярод дарогі кладзі! Увесь інвентар нясіце і стаўце на калідоры, каб пераступаць трэба было! Бо пакуль не спатыкнуцца, не зразумеюць, што нам месца не хапае.

Усе памяшканні сталі непазнавальныя. Куды ні зірні – стаяла і ляжала навуковая апаратура. Нарэшце наступіў дзень наведвання лабараторыі вялікім князем. Падчас агляду Дзмітрый Іванавіч уладна камандаваў:

– Вось сюды, цяпер налева! Акуратна, не спатыкніцеся, а тут пераступіце, цесна ў нас...

Грошы на пашырэнне лабараторыі выдзелілі ў той жа дзень.

## Самыя лепшыя намеры

Аднойчы адзін пачынаючы драматург запрасіў Бернарда Шоу на прэм'еру сваёй п'есы, але кантрамарку той забыўся дома. Кантралёр не хацеў прапускаць яго ў залу. Але калі гэта заўважыў адміністратар, Шоу правялі на яго месца. Бернард моўчкі прагледзеў увесь спектакль, а пасля заканчэння падышоў да кантралёра і працягнуў яму фунт стэрлінгаў са словамі:

– Прашу прабачэння! Я пераканаўся, што ў дачыненні да мяне ў вас былі самыя лепшыя намеры!

## Абы-як

Быў такі авіяканструктар – Бярыеў. Ён праектаваў і рабіў лодкі, якія маглі лётаць.

Неяк на дэманстрацыі генерал спытаўся:

– А чаму яны ў вас лётаюць так павольна?

– Таварыш генерал, ёсць такая птушка – качка. Яна ўмее хадзіць, плаваць і лётаць. Вось толькі ўсё гэта яна робіць абы-як.

## Хто быў першым?

Французскі пісьменнік і гумарыст Альфонс Але за чвэрць стагоддзя да Казіміра Малевіча напісаў карціну пад назвай «Бітва неграў у пячоры глыбокай ноччу» – чорнае палатно з амаль квадратнымі прапорцыямі. Таксама ён амаль на семдзесят гадоў апярэдзіў мінімалістычную музычную п'есу цішыні «4'33» Джона Кейджа сваім аналагічным творам «Жалобны марш для пахавання вялікага глухога».

## Самы спакойны сон...

Пасля смерці аднаго шляхетнага рымляніна, які пакінуў пасля сябе вельмі шмат даўгоў, імператар Аўгуст загадаў купіць падушку, на якой спаў нябожчык.

Здзіўленыя прыдворныя адважыліся спытаць, чым выклікана такое незвычайнае жаданне.

– Вельмі цікава валодаць падушкай, на якой чалавек мог спакойна спаць, маючы столькі даўгоў, – адказаў імператар.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Алег ПАПОЎ.




# Анатоль Волкаў: Чалавек і Мастак з вялікай літары.

**(да 110-годдзя з дня нараджэння)**




Шарж Сяргея ВОЛКАВА, 1983 г.

*Сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Анатоля Валянцінавіча ВОЛКАВА – вядомага графіка, жывапісца, плакатыста. Гэта з яго ілюстрацыямі кніжкі беларускіх паэтаў і празаікаў траплялі ў рукі маленькіх чытачоў.*

*Дзясяткі зборнікаў народных казак аформіў Анатоль Валянцінавіч у пасляваенныя гады. Ён быў у ліку тых, хто стаяў ля вытокаў часопіса «Вожык», з якім да апошніх дзён свайго жыцця супрацоўнічаў як мастак-карыкатурыст. У 1950-я гады напісаў вядомую ў СССР карціну «Першага верасня», пазней палатно «Снежкі», якія знаходзяцца ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея.*

*Анатоль Валянцінавіч – мой тата, мой кумір і ў жыцці, і ў выяўленчым мастацтве. Ён перадаў мне сур'ёзнае патрабавальнае стаўленне да прафесіі мастака. У яго я навучыўся бескампрамісным адносінам да ўласнай творчасці і павазе да іншых майстроў.*

*Тата быў вялікім жыццялюбам, віртуозна іграў на мандаліне і гітары, па-майстэрску вадзіў свайго «Масквіча». Любіў більярд і выдатна разбіраўся ў грузінскіх вінах. У даваенныя гады часта гуляў у футбол і нават правёў некалькі матчаў за мінскае «Дынама».*

*Але мастацтва, творчасць былі для яго важнейшымі за ўсё...*

*Помню і ніколі не забуду.*

**Сяргей Анатольевіч ВОЛКАЎ**,
заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.



**— Даўней жонка бедавала, што дабра мала,а цяпер бядуе, што хатка мала (1960 г.).**



**— Што, дрэнна заводзіцца? Не круці, спішам (1968 г.).**



— Вось, што значыць догляд! Каня ўтрымаць не магу.
— І я свайго таксама (1946 г.).



— Заходзь, заходзь, дружа, у мяне дарагія госці — разам Беларусь вызвалялі (1969 г.).



— За што?! Мне яшчэ шаснаццаці няма! (1968 г.)



— Глядзі, дарагі, які цудоўны замежны гарнітур — пяты год стаіць і як новенькі (1968 г.).

# ЯК ЛЕПШ ПРАЦУЕЦЦА?

*Іранеска*

Лявон Петушкоў скурчыўся ад холаду ў сваім кабінеце.

«Не, так працаваць нельга. Хутка ледзяшом стану», — падумаў ён і ўключыў абагравальнік, што быў пад сталом.

У хуткім часе мужчына адчуў прыемнае цяпло. Ён выпраміў спіну, развёў рукі.

— Ну, вось, цяпер можна і да спраў прыступіць, — сказаў ён услых і тут жа ўзгадаў: — Але ж я яшчэ сёння не піў кавы. Як без яе пачынаць працаваць?»

Хвілін дваццаць пайшло на тое, каб закіпяціць ваду і прыгатаваць цудадзейны напой. Папіваючы духмяную каву, Петушкоў залунаў у мроях. Ён думаў, што хутка абед, падчас якога можна будзе схадзіць у бліжэйшыя білетныя касы і набыць квіткі ў тэатр, куды ў нядзелю меркаваў схадзіць з жонкай і дачкой.

«Не, у цеплыні працаваць нельга. Зусім не тыя думкі ідуць у галаву», — вырашыў мужчына і адключыў абагравальнік.

Не прайшло і пяці хвілін, як Петушкоў адчуў: пачынае мерзнуць спіна, а з ёю ўсё цела і нават думкі. А ён жа толькі ўзяўся за работу! Словам, абагравальнік давялося ўключыць зноў.




Пётр КОЗІЧ.

З цяплом прыйшлі мроі пра мора, на якім мужчына пабываў сёлета з сям'ёй.

— Зараз бы хоць на хвілінку пачуць шум прыбою», — летуценіў Петушкоў, потым заплюшчыў вочы і... здрыгануўся: — Вазьмі сябе ў рукі! Трэба працаваць. Начальнік жа сказаў, што гэтае заданне павінна быць зроблена тэрмінова».

Мужчына выключыў абагравальнік. Але яго рашучасці хапіла ненадоўга.

— Ды што гэта такое! Ногі мерзнуць, батарэі халодныя, як у такіх умовах даручэнне начальства выконваць? Вып'ю яшчэ кавы, каб сагрэцца.

Зноў гатаваўся напой. А потым былі мары пра адпачынак, далёкае мора і тэатр.

Раптам у кабінеце раздаўся тэлефонны званок. Петушкоў, вырваны са сваіх летуценняў, ажно падхапіўся ў крэсле. Зрабіў удумлівы выгляд твару і ўзяў трубку.

— Алё, слухаю вас, — сказаў ён дзелавым голасам, быццам быў не падначаленым, а самым галоўным у гэтай установе.

— Петушкоў, — пачуўся голас сакратара. — Дырэктар прасіў перадаць, што праз паўгадзіны чакае вас у кабінеце з даручанай вам справай.

— Зразумеў, буду, — ціха прамовіў мужчына.

Ён яшчэ раз паспрабаваў выключыць абагравальнік, потым зноў яго ўключыў, потым зноў выключыў. Адагнаў думкі пра далёкі шум прыбою і нарэшце стаў працаваць.

Праз паўгадзіны Петушкоў з дакументамі быў ужо ў прыёмнай шэфа.

«А ўсё ж я так і не зразумеў, як лепш працуецца: з абагравальнікам ці без яго, — падумаў мужчына. — Відаць, лепш за ўсё работа ідзе тады, калі начальнік абазначыць строгі дэдлайн...»

Петушкоў усміхнуўся і пераступіў парог кабінета шэфа.

**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*

# ПЕВЕНЬ-ДЫСІДЭНТ



*Байка*

Аднойчы Певень дзесьці ўшчэнт напіўся
І на двары занадта расхрабрыўся.
Без сораму да Качкі заляцаўся,
Асмеліўся – да Лайкі прыдзіраўся,
З разгону ў лазні выбіў ён акенца
Ды песні кукарэкаў проста ў сенцах.
З падворка Певень выбег вельмі прытка
І дзеўбануў прахожага за лытку.
Гаспадары дэбош той супынілі,
Нахабніка яны ў хляве закрылі.
Адседзеўшы там тэрмін свой законны,
Хадзіў, не падымаў вачэй «палоннік».
Ды потым Певень наш дазнаўся раптам,
Што клюнуў не кагосьці – дэпутата!
Адразу сорам – як зняло рукой.
– Заўважце: не бандыт я, а герой! –
Так Пеця заявіў усім публічна. –
Вы разважаеце апалітычна
Пра гэты непрыемны прэцэдэнт.
За тое, што з уладай быў не згодны,
Мяне прызналі элементам шкодным.
Не крымінальнік я, а – дысідэнт!
Зраблюся палітычным эмігрантам,
Вялікія мяне чакаюць гранты...
***
Каб не адказваць за злачынствы інцыдэнты,
Той-сёй шыфруецца падчас пад дысідэнта.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*








Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.







Алег ПАПОЎ х 2.




*Нарыньяні (сапраўднае прозвішча Нарыньянц) Сямён Давыдавіч (1908–1974) – знакаміты савецкі журналіст, фельетаніст, драматург. Працаваў у газетах «Комсомольская правда», «Правда». Аўтар шматлікіх зборнікаў нарысаў і фельетонаў. Напрыклад, «Рахунак на чуласць», «Дама з нарцысамі», «З запалкай вакол сонца», «Сватаўство на Арбаце», «Побач з вамі» і інш.*



## Адзін на адзін

*Фельетон*

У пакой увайшоў шчуплы, невысокі мужчына. Ён выцягнуўся па-салдацку перад пісьмовым сталом і сказаў:

– Мяне звольнілі за крытыку.

– А вы каго крытыкавалі?

– Таццяну Іванаўну Вераб'ёву. Вядома, мне б стрываць, прамаўчаць тады...

– Калі?

– Ды на 8 Сакавіка. Павысілі Таццяну Іванаўну Вераб'ёву ў той дзень з простай работніцы да наладчыцы. Мяне абышлі, а ў яе свята. За што, думаю, такі прывілей.

– 8 Сакавіка ўшаноўваюць не мужчын, а жанчын!

– Гэта я разумею. А ўсё ж такі. І тут Тамара Ісаеўна, яна ў нас у буфеце гандлюе, вазьмі і скажы мне: «У Вераб'ёвай ёсць прычына».

– Якая?

– У яе раман з майстрам Палавінкіным.

Мяне спачатку сумненне ўзяло. Якая, думаю, цікавасць яму круціць раманы з Таццянай Іванаўнай? Жанчына яна ва ўзросце, траіх дзяцей мае. А ў нас поўны цэх моладзі. Кожная другая – прыгажуня. Але сумняваўся я нядоўга. Раз Тамара Ісаеўна кажа, што раман, значыць, так яно і ёсць. Яна чалавек правераны, хлусіць не стане. Ну, пры такіх думках я ўзяў і выступіў з выкрыццём.

– Дзе выступілі? У газеце?

– Не.

– На сходзе?

– Таксама не.

– Дык дзе ж?

Мужчына пераступіў з нагі на нагу, выцер пот з лысай галавы і ціха сказаў:

– Дома я выступіў.

– У сэнсе?

– У сваім доме. Прыйшоў пасля змены, павячэраў і распавёў пра ўсю гэтую ненармальнасць жонцы. Даверыўся, як самаму блізкаму чалавеку. А яна ўзяла на наступны дзень ды і выклала ўсё на кухні суседкам. Тыя далей. На фабрыцы шум, гам падняўся. Дырэкцыя стварае камісію. Адзін член з парткама, двое з камсамола ды тры чалавекі ад прафсаюза. Камісія ходзіць, правярае, і высвятляецца: ніякага рамана ў Таццяны Іванаўны з Палавінкіным не было. І вось чалавек трапляе ў бязвыхаднае становішча. Спачатку заяўляецца ў цэх жонка майстра і хвастае гэтага чалавека па шчоках. А потым прыходзіць муж Таццяны Іванаўны і таксама б'е яго.

– Каго яго? Пра якога чалавека вы кажаце?

– Пра сябе я кажу. Мяне па шчоках хвастаюць, а вакол людзі, і хоць бы адзін заступіўся. Але я чалавек самалюбівы. Не захацеў цярпець дарэмна здзеку над сваёй асобай. Пайшоў я да Тамары Ісаеўна. А яна просіць прабачэння. Даруй, маўляў, памылілася. У Таццяны Іванаўны, кажуць, амуры не з майстрам Палавінкіным, а са зменным інжынерам Петуховым.

– А цяпер, пытаюся, дакладна?

– Дакладна.

– Ну, што мне было рабіць, калі мяне запэўнілі? Прыйшоў са змены дадому. Павячэраў. Лёг спаць. Пакуль святло гарэла, я трываў, маўчаў. А як жонка выключальнік павярнула, я і размяк, разбалабоніўся.

– І зноў сам-насам?

– Так. Праўда, на гэты раз я з жонкі слова ўзяў. «Нікому?» – пытаюся. «Нікому», – адказвае. «Нават роднай маці?» – «Нават ёй». Роднай маці жонка і праўду нічога не сказала, а вось суседкам на кухні распавяла пра маё выкрыццё. Дырэктар другую камісію стварыў. І зноў адзін член з парткама, два ад камсамола, тры чалавекі ад прафсаюза. Зноў расследаванне, і зноў аказваецца, што ў Таццяны Іванаўны ніякіх раманаў, ніякіх амураў. Вось тут бы нашай дырэкцыі і ўзяцца за жанчын.

– Чаму за іх?

– Таму што яны ва ўсім вінаваты: адна прыдумала, іншая расказала. А жанчынам была дадзена поўная амністыя. Жонку маю нават не кранулі. Яна, маўляў, хатняя гаспадыня, чалавек адсталы; буфетчыцы Тамары Ісаеўне таксама нічога. Бо яна не з нашага тэкстыльнага ведамства...

– А вас зноў па шчоках хвасталі?

– Чорт з імі, са шчокамі, я б стрываў. Мяне за маю крытыку з фабрыкі звольнілі.

– Ды якая ж гэта крытыка? Гэта плёткі.

– А за плёткі хіба можна звальняць працаўнікоў?

– Можна і трэба.

– Ну, ведаеце. Не чакаў, – сказаў мужчына. – Я да вас з Серпухава ехаў. Сто кіламетраў на электрычцы трохся, а вы...

І, моцна бразнуўшы дзвярыма, выйшаў з пакоя. А праз гадзіну ён ужо выцягваўся пасалдацку перад нейкім сталом у пракуратуры ўсё з той жа фразай на вуснах:

– Дапамажыце! Пакутую за крытыку!

*«Побач з вамі», 1957 г.*




Міхаіл ЗНАЙДЗЮК.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Пётр КОЗІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Алег ПАПОЎ.



Аляксандр ПЯТРОЎ.



# ЧАРГА ПА ГРОШЫ



*Гісторыйка*

Так здарылася, што Вольга Іванаўна то аднаму, то другому аднавяскоўцу пазычала грошы. Запісвала ў спецыяльны сшытак, хто колькі браў рублёў і калі абяцаў аддаць. Прычым ніякай выгады з гэтага жанчына не мела. Проста ёй падабалася выручаць знаёмых.

Сярод тых, хто звяртаўся да Вольгі Іванаўны па дапамогу, былі розныя людзі. Адны пазычалі на чарговую бутэльку, іншыя бралі грошы да пенсіі, бо не разлічылі яе на месяц. Некаторыя з аднавяскоўцаў падоўгу не аддавалі рублі, думалі, што жанчына забудзецца пра іх; былі і тыя, хто імкнуўся вярнуць пазыку як мага хутчэй.

Вось і на гэты раз суседка Анжэла прынесла сто рублёў доўгу. Любіла яна пагаварыць з Вольгай Іванаўнай, паслухаць ці падзяліцца навінамі за кубачкам гарбаты. Таму яе «набегі» цягнуліся звычайна па некалькі гадзін.

І тут у дом, нават не пастукаўшы ў дзверы, забегла Людка. Пару гадоў таму яна пазычыла ўжо ў Вольгі Іванаўны ладную суму грошай, але зноў і зноў прасіла яшчэ рублёў, якія дадаваліся да былога «рахунку». Так было і зараз.

– Выручайце, даражэнькая! Дайце мне сорак рублёў. З сынам бяда, участковы прычапіўся, хоча яго ў турму пасадзіць, – выпаліла Людка.

– Ты яшчэ са старымі пазыкамі не разлічылася, ні капейкі больш ад мяне не атрымаеш, – паківала галавой Вольга Іванаўна.

– Праз тыдзень усё будзе ў вас вось тут на стале ляжаць, – біла тая сябе ў грудзіну.

– І хто толькі паказаў табе да мяне дарогу? Ты ж маладая, у сваіх сяброўках папрасі, – не здавалася жанчына.

– Няма ў іх. Пашкадуйце мяне, калі ласка!

Такія маленні цягнуліся б доўга, але на выручку прыйшла Анжэла, якая ціхенька сядзела за сталом і ўсё гэта слухала.

– Людка, я ж першая завітала да Вольгі Іванаўны і таксама прашу грошай на тыдзень. А ты займай чаргу, за мной будзеш. Тым больш, участковы два тыдні як у санаторый паехаў. Не ведаю, як твой сын здолеў там яму трапіцца пад гарачую руку.

Людка зніякавела, такой размовы яна не чакала. Таму проста моўчкі выйшла з хаты.

– Анжэла, дазволь я цяпер кожны раз, калі яна будзе прыходзіць да мяне, буду гаварыць, што ты першая чаргу заняла, – смяялася Вольга Іванаўна.

– Канешне! Павінен жа нехта быць тваім асабістым ахоўнікам ад такіх вось надакучлівых даўжнікоў, – пасміхаючыся, адказвала тая.

**Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*



## АнтыАўтаПарады

Калі ты ў шлях сабраўся – едзь.
Аўто ж сваё памый ледзь-ледзь.
Няхай на месцы ганаровым
Ляжыць тэхнічны пашпарт дома.
Не свеціць левы паваротнік –
Такой бяды! Такой турботы!
Няхай аўтамабіль не новы –
Забудзь пра тэхагляд чарговы.
Гарэлкі грамаў сто глыні,
Не заціскай сябе ў рамні.
І ездзі так, як болей зручна
(Чаму яны ў тых школах вучаць?).
Запомні гэтыя парады –
Даішнік будзе вельмі рады.

**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*



Аляксандр ШМІДТ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.



Алег КАРПОВІЧ.

# Дыялогі

## Можна давяраць

– Даверыць тайну табе можна,
Каб быць спакойным дзень пры
дні?
– Раз сумняваешся, Сярожа,
Мяне па гэтым ацані:
Ужо чацвёрты год мінае,
Як мне зарплату паднялі,
А жоначка дасюль не знае,
Ды і ці будзе знаць калі!

## Лепшы сродак

– Які найлепшы сродак, каб
зняць стрэс?
– Унутраны гарэлачны кампрэс.

## Непрымальныя ўмовы

– Ну, як з пошукамі працы?
– Ат, вакансій многа розных,
Ды скрозь трэба намагацца –
Аж трэць сутак быць цвярозым!

## Салдаты не плачуць

– Што нюні распусціў, Валера?
– Мяне папёрлі з універа.
– Трымайся, браце, пад ударам:
Салдатам плакаць не да твару.

## Немагчыма працаваць

– Надакучыў, доктар, храп,
З-за яго я нібы раб.
– Жонцы храп перашкаджае?
– Не, сям'і пакуль не маю.
– Дык у чым тады турбота?
– Зноў я звольнены з работы...

## Намёк

– Любы, холад я цярплю...
– Зараз моцна прытулю.
– Не пра тое тут гаворка,
А пра футра, мілы, з норкі!

## Пакінь, як узяў!

– Мо, разыдземся з табою?
Розныя мы ўсё ж такія...
– Не! Ты ўзяў мяне ўдавою –
Удавою і пакінеш!..

## Каго выбраць?

– За настаўніка мне замуж
Ці вайскоўца, падкажы?
– Гледзячы на тое, Жанна,
Як надумалася жыць:
Калі хочаш, каб да ночы
Муж твой сшыткі правяраў,
Слепячы пры гэтым вочы, –
Першы будзе ў самы раз.
А вайскоўцу будзеш рада,
Стаўшы жонкаю законнай,
Бо – галоўнае – загады
Ён прывучаны выконваць.

## Пераблытала

– Добра, Ганна, цябе туліць
Твой грэйпфрут, а наш сусед?
– Ці запомніш ты, бабуля:
Не грэйпфрут ён, а бойфрэнд!

## Як перадаць?

– Як жа я цябе кахаю!
Перадаць – не хопіць слоў...
– Перадай грашыма, раю,
Каб адчула я любоў.






Аляксандр ПЯТРОЎ.

## Адпала патрэба

– Не кахаеш больш мяне...
Хораша было раней:
З ранку аж да самай ночы
Пазіраў ты ў мае вочы,
Рук маіх не адпускаў,
Словы цёплыя шаптаў...
– Больш патрэбы ўжо няма
Рукі мне твае трымаць
З таго моманту, калі
Піяніна прадалі.

## Дыета з папраўкай

– Хворы, вам штодзённа трэба
Лустачку, не болей, хлеба,
Можна ківі і гранаты,
Трошкі мёду да гарбаты.
Абястлушчаны тварог
Вам яшчэ б параіць мог.
– Доктар, а ці можна гэту
Пад гарэлачку дыету?




## Не гультай!

– На канапе зноў валяўся!
Ці падумаў ты пра жонку?
Мо забыў, што ліфт зламаўся,
Што цягну сама дзіцёнка,
І каляску, і тры сумкі,
І партфель яшчэ трымаю?
Дрыхнуў бы, напэўна, суткі,
Мне ні ў чым не памагаеш!
– Не скажы. З табой не згодзен.
З гультаём мяне раўняеш,
Ну, а хто, калі прыходзіш,
Табе дзверы адчыняе?

**Мікола КАМАРОЎСКІ,**
*г. Орша.*




Алег ПАПОЎ.




Анастасія СКАРКО.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Спрытнасць рук і ніякага махлярства

Менавіта гэтым прынцыпам карыстаюцца фокуснікі, штукары. Але даволі часта да яго звяртаюцца і злачынцы. Прычым не важна, колькі ім гадоў.

Напрыклад, дзве дзяўчыны падлеткавага ўзросту вырашылі праверыць на справе трук з купюрай і манетай. Схема падману была простая: яны падыходзілі да кас магазіна з таварам на суму крыху большую за рубель. Пры гэтым паказвалі прадаўцу купюру ў 50 беларускіх рублёў. Пасля таго, як той пачынаў шукаць рэшту, дзяўчаты «па шчаслівай выпадковасці» знаходзілі ў сябе манету ў 50 капеек і прапаноўвалі яе для больш простага падліку. Затым непрыкметна хавалі 50 рублёў і перадавалі толькі манету. Прадавец жа, не звярнуўшы на гэта ўвагі, адлічваў махляркам 49 рублёў і аддаваў тавар.

Такім чынам ім удалося падмануць як мінімум пяцярых чалавек на агульную суму каля 250 рублёў. Вядзецца следства. Штукаркам пагражае да трох гадоў зняволення. Спадзяёмся, што гэта выб'е дурасць з маладых галоў.




## Крыху пераблытаў

– Хачу сабаку! Дзе хочаш бяры, але каб у мяне быў французскі бульдог. Толькі так ты можаш даказаць мне сваё каханне, – сказала мужу адна гамяльчанка.

– Ды адкуль я грошы на яго вазьму, – здзівіўся той.

– А гэта ўжо не мая справа, выкручвайся, – адказала жанчына.

Мужчына выйшаў на вуліцу, каб праветрыцца і падумаць, дзе знайсці сабаку. Лунаючы ў сваіх думках, ён апынуўся каля магазіна, дзе было прывязана шчаня бульдога. Не раздумваючы, мужчына схапіў яго і пабег дадому.

– Вось, трымай, – свяціўся муж.

– Што ты прынёс, дурань? Гэта мопс, нясі яго туды, дзе ўзяў. Такая дробязь мне не патрэбна! – закрычала жанчына.

У гэты ж час гаспадыня пісала заяву ў міліцыі пра крадзеж гадаванца. Праваахоўныя органы прагледзелі камеры відэаназірання і выслалі патруль. Неўзабаве ён заўважыў мужчыну, падобнага на таго, што адвязваў сабаку каля магазіна. Злодзей не адпіраўся і расказаў, чаму адважыўся на такі ўчынак.

Мопса вярнулі гаспадыні. А на мужчыну завялі крымінальную справу. Невядома, якія вынікі з гэтага зрабіла яго жонка. Мяркуем, зараз яна будзе больш акуратна адносіцца да сваіх жаданняў.

## Месца для надзейнага захоўвання грошай?

Дзе часцей за ўсё захоўваюць грошы? У банку, скрыні з бялізнай, у адной з кніг дамашняй бібліятэкі, самаробных схованках... Многія лічаць, што найлепшым і самым надзейным спосабам зберагчы свае рублі з'яўляецца сейф. А чаму б і не? Яго канструкцыя выклікае давер, толькі вы ведаеце спецыяльны код... Але ў кожным правіле бываюць выключэнні.

Так, мужчына з Казахстана пасябраваў з брэстаўчанкай. А ў хуткім часе яны пачалі жыць разам. Жанчына нават падумаць не магла, што абаяльны, гаваркі і галанты кавалер – зусім не той, за каго сябе выдае. Аднойчы ён падабраў момант, калі сям'я сяброўкі знаходзілася на святкаванні юбілею блізкага сваяка, пранік у дом і выкраў сейф з грашовымі сродкамі, ювелірнымі вырабамі. Вось так у адзін момант у брэстаўчанкі парушылася вера і ў надзейнасць сейфа, і ў трываласць кахання.

Мужчыну шукаюць праваахоўныя органы. Хто ведае, ці зможа ён знайсці надзейнае месца для захоўвання сваёй свабоды.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Павел ГАРАДЦОЎ.



Алег ГУЦОЛ.

**Ганад Чарказян**

# ПЕРАБЛЫТАЎ

*Іранеска*

Прагучаў тэлефонны гудок, затым яшчэ адзін... На тым канцы провада ніхто не адказваў. Я паклаў трубку. Мабыць, нікога не было дома. Пайшлі ў магазін, на рынак ці проста прагуляцца і падыхаць паветрам. Крыху пазней набраў нумар зноў. Адказала жанчына. Здагадаўся, што гэта жонка сябра Ала Анатольеўна.

– Добры дзень, – нібы трапіўшы ў пастку, нясмела прамовіў я.

– Добры дзень...

І невядома з чаго пацягнула мяне на гумар:

– Мне бКата... Ці можна яго да тэлефона?

– Вам якога? – заінтрыгавала мяне яна. – У нас два каты.

– Ды таго, які не спіць па начах, – з усмешкай запатрабаваў я.

– Яны ў нас абодва такія... Адзін храпе ды мурлыкае, другі мурлыкае ды храпе.

Я здзіўлена лыпаў вачамі, а яна працягвала:

– Адзін з раніцы сядзіць на падаконніку і на дзяўчат сваіх паглядае. А другі... Пасля ўчарашняга я накапала яму валяр'янкі, той супакоіўся і пайшоў на кухню абедаць.

– А прывітанне перадаць можна?

– Каму?

– Таму, хто ходзіць на рынак па прадукты.

– Хм... Туды з іх ніхто не ходзіць, яны ж каты, мы іх саміх там купілі. А наогул хопіць, шаноўны Алесь Камароўскі, твой каўказскі акцэнт зусім не смешны...

– Я не Камароўскі... Я... Мне б Казіміра.

– Прабачце, вы не туды трапілі. У нас Казіміра няма. Тут жыву я, муж і два каты – Барсік і Мурзік.

Я доўга смяяўся і прасіў прабачэння. Калі потым расказаў пра ўсё Казіміру, ён, пасміхаючыся, прызнаўся:

– Я ўсю гэтую размову чуў і чакаў, чым яна скончыцца. Але ты не дайграў сваю ролю да канца. Здаўся. Мы з жонкай доўга рагаталі з цябе. Праўда, яна да гэтага часу ўпэўнена, што званіў Алесь Камароўскі і ў чарговы раз хацеў разыграць, як гэта ён умее, але ўжо з акцэнтам. Так што цяпер ты ведаеш, што твая гаворка гучыць зусім ненатуральна.

**Пераклад з рускай Казіміра Камейшы.**


Анастасія СКАРКО.






Прывітанне, калючы дружа!

Які добры сёлета ўраджай яблыкаў, ажно дрэвы ламаліся ад сакавітых пладоў. Многія людзі не ведалі, што з імі рабіць. Кампотаў, варэння закаталі, насушылі, больш цвёрдыя гатункі на зіму нарыхтавалі. А як часта гучала пытанне: «Можа, табе яблыкаў даць?»

Таму вельмі развесяліўся, калі ўбачыў такі пакет з ураджаем каля ўваходу ў адзін сталічны магазін. Вось і падумалася мне:

З'есці — не зможам.
Кінуць — шкада.
Усім, хто хацеў, — раздалі...
Мо краме, што побач, аддаць,
Каб не гнілі на зямлі?..

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*



16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

№ 11 (1562), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 06.11.2018. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,30. Тыраж 635 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61,
220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



**Малюе Сяргей ВОЛКАЎ**










# Вожыкаўскі плакат

Аляксандр ШМІДТ.

*«Хоць і восень на двары,
Але нам не да хандры.*

*Будзем разам усміхацца:
Не забудзься падпісацца!»*



